Год І. Верасень 1932 г. № 9.




Ты е́си Пе́тръ,
и́ на се́мъ ка́мени сози́жду це́рковь мою́. Матд. ѕі. иі.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## З Ь М Е С Т:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.

„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Верасень. 1932 г. № 9

## ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### на съвята Нараджэньня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, 8-га верасьня.

*ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 10,38-24; ЗАЧАЛА 54.*

*38. Таго часу прыйшоў Ісус у адно сяло: а адна жанчына, на імя Марта, прыняла Яго ў дом свой;*

*39. І ў яе была сястра, на імя Марыя, катораяя, сеўшы ля ног Ісусавых, слухала слова Яго.*

*40. Марта-ж клапацілася аб вялікай паслузе і, стаўшы, сказала: Госпадзе, ці-ж Ты ня дбаеш, што мая сястра мяне адну пакінула паслугоўваць? Дык скажы ёй, каб мне памагла.*

*41. А Ісус адказаў ёй: Марта, Марта, турбуешся і клапоцішся аб многае,*

*42. А адно толькі патрэбна. Марыя ж выбрала лепшую часьць, якая не аднімецца ад яе.*

*РАЗДЗЬЕЛ 11,27-28; ЗАЧАЛА 58.*

*27. І сталася, як Ён гэта гаварыў, адна жанчына, узвышчаючы голас з народу, сказала яму: шчасьлівае нутро насіўшае Цябе, і грудзі, Цябе карміўшыя!*

*28. А Ён сказаў: шчасьлівыя таксама слухаючыя слова Божае і выпаўняючыя яго.*

Сьвята Нараджэньня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі належыць да ліку 12 найважнейшых у годзе. Называюць у нас гэта сьвята Багачом, дзеля таго, што прыпадае ў найбагатшую пару году, увосень, калі кожны гаспадар, сабраўшы з поля Божыя дары, багаты, мае капітал з якога жывець увесь час да новага ўраджаю.

Сьвята Нараджэньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі хрысьціяне абходзяць з вялікаю радасьцю і ўрачыстасьцю, бо мамэнт гэты быў вельмі важны ў справе збаўленьня роду чалавечага. Найсьвяцейшая Дзева была той зоркай ранешняй, што сваім усходам прадвяшчае хуткі ўзыход сонца яснага—Ісуса Хрыста.

Каб зразумець, як вялікай вагі было Нараджэньне Багародзіцы, а пасьля і Збаўцы, трэба зразумець няшчаснае палажэньне роду чалавечага перад прыходам абяцанага Мэсыяша.

Пасьля граху першароднага ня толькі нашыя першыя бацькі Адам і Эва, але і ўвесь род чалавечы згубіў шчасьце зямное і ня меў доступу па сьмерці да шчасьця вечнага.

На зямлі запанавала цемра духоўная, людзі дайшлі да такога паніжэньня, што аддавалі чэсьць боскую розным стварэньням божым, а нават зробленым самымі-ж людзьмі розным ідалам. Цёмная ноч панавала над родам чалавечым, ноч доўгая і вельмі страшная, бо духоўная.

І вось, якое-ж вялікае шчасьце для людзей: на кругавідзе гэтай цёмнай ночкі паказалася ясная зорка ранешняя, зьвястунка — хуткага зьяўленьня найясьнейшага сонейка.

Найсьвяцейшая Дзева Марыя, Каторай мы сягоньня сьвяткуем дзень нараджэньня, дала людзям Хрыста, Спаса роду чалавечага ад пагібелі вечнае.

Хрыстос, як сонейка яснае, асьвяціў цемру духоўную, паказаў людзям праўдзівы шлях, што вядзе да Бога і шчасьця вечнага. Ня толькі паказаў дарогу да Бога, але памагае людзям ісьці па гэтым шляху праз заснаваньне сьвятой Царквы.

Як калісьці, так сама і цяпер, у шмат якіх душах пануе непраглядная цемра, няма там Хрыста, ня сьвеціць у такой душы сонца праўды: ня мае такі чалавек паняцьця аб навуцы сьв. Эвангельля, ня ведае сам, нашто жывець і другому дарогі не пакажа. Нямала такіх людзей, асабліва за апошні час, разьвялося і на нашай зямлі Беларусі, ня толькі пад валадарствам бальшавікоў, але і ў Польшчы.

Хай-жа Найсьвяцейшая Дзева Марыя будзе для гэтых нешчасьлівых нашых братоў той зоркай, каторая-б давяла іх да сонца праўды — Ісуса Хрыста.

Кожны чалавек, нават недаверак, хацеў-бы пазнаць праўду; у гэтым імкненьні да праўды памагчы можа і за-

праўды памагае Багародзіца Дзева. Да Яе трэба зьвяртацца за падмогаю, Яна скіруе на праўдзівую дарогу, да праўды, да Хрыста.

Аднаго разу завязалася ў гасьцях гутарка аб рэлігіі. Адзін з сабраных адазваўся: „я не магу аб гэтым нічога сказаць, таму што я ня маю веры“. Каля яго сядзеў сьвяшчэньнік і, чуючы гэтыя словы, шапнуў яму на вуха: „Раджу вам памаліцца да Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, яна напэўна паможа“. Гэтыя словы не прапалі дарма. Прайшло некалькі гадоў, атрымаў сьвяшчэньнік ад таго пана пісьмо, у каторым ён вельмі дзякуе за добрую раду, мае веру ў Бога і чуецца зусім шчасьлівым.

І я таксама раджу братом беларусам, што згубілі праўдзівую, шчырую веру, хай зьвернуцца да Прачыстае Багародзіцы. Калі хто не забыўся яшчэ малітвы, што маці вучыла: „Богородице Дѣво“, хай-жа чытае яе і моліцца, а напэўна ў хуткім часе зазьяе ў яго змучаным сэрцы ясная зорка веры хрысьціянскай. З верай у Бога лягчэй будзе жыць, ня страшна сканаць і можа веруючы спадзявацца шчасьця вечнага па сьмерці.

*а. Антоні*

---

## МІСЫЙНЫ КЛЯШТАР У АЛЬБЭРТЫНЕ.

За гарамі, за лясамі
На зямельцы хоць малой,
Стаіць Кляштар, вельмі знаны
Сваёй Місыяй сьвятой.
Колькі гора, колькі крыўды
На сабе Ён перанёс! —
Хоць сабой яшчэ запраўды
Ён на сілах ня узрос.
Ах! цярністымі шляхамі
З сваёй Місыяй ідзе! —
Зато пэўнымі шагамі
Ён дзяцей сваіх вядзе.
Ня смуціся, Кляштар мілы,
Тым, што маеш цяжкі труд!
Працуй толькі, што ёсьць сілы!
Бо з Табою Бог і люд.
Гэта справа — справа Божа, —
Думка вечная Хрыста.
Пабароць яе ня зможа
Ні капрыз, ні сьлепата.

*А. Ч—скі.*

---

# НОВЫ ЯПІСКАП ПІНСКІ.



ЯГО ПРААСЬВЯШЧЭНСТВА ЯПІСКАП ПІНСКІ.

На месца памёршага каталіцкага Япіскапа ў Пінску Жыгімонта Лазінскага, Сьвяты Айцец назначыў япіскапам

Пінскім кс. Казімера Букрабу, родам з Горадна, Яго Правялебнасьць хіратонію прыняў з рук Я. П. Мітрапаліта Роппа, пры ўчасьці япіскапаў Міхалькевіча з Вільні і Ранцана з Рыгі 21 жніўня с. г. ў касьцеле сьв. Казімера ў Вільні. 28 жніўня с. г. новы япіскап адбыў інгрэс у Пінскую Катэдру і гэтым прыняў у свае ўпраўленьне эпархію. Як мы даведаліся галоўным прынцыпам Яго Правялебнасьці Япіскапа Казімера ёсьць словы: „Да пріидетъ царствіе Твое". Да справы унійнае ня толькі прыхільны але цалком адданы.

Вельмі дзякуем Госпаду Богу, што такога даў да Пінска Япіскапа. Рэдакцыя нашае часопісі жадае новаму Пінскаму Япіскапу шчасьця і багаслаўленьня Божага на доўгія годы.

# Некалькі слоў аб нашым шляху.

Усе людзі ідуць наперад, шукаюць новых адкрыцьцяў, робяць поступ амаль ува ўсіх галінах навукі і называюць гэта прагрэсам. Ня так даўно Жюль Вэрн пісаў толькі байкі, што людзі лёталі, як птушкі, плавалі, як рыбы і г. д. Цяпер ужо гэта стала запраўднасьцю і нікога ня дзівіць. Прачытайма харошанькі вершык с. Тарэсы ў № 3 „Да Злучэньня".

„Здаецца на сьвеце шмат ўсяго цяпер:
Чалавеку служыць гром, вада і зьвер, —
Як у казцы бачыць цудоўныя зьявы,
Паветра іграе да танца, забавы..."

Ці-ж ня праўда? — Я ня ведаю, што мела на ўвеце с. Тарэса, пішучы гэты радок „Паветра іграе да танца, забавы..." Мне здаецца, што радыё; можа наагул кожны музычны адгалосак, але возьмем радыё. У кожным горадзе, дзе ёсьць радыястанцыя, лёгка зрабіць і самому маленькі апарацік, пасьля адзін дроцік прывязаць да жалезнага ложка, другі да вадаправоду, злучыць з зробленым апарацікам, купіць слухаўкі і слухаць з паветра прыгожыя канцэрты. Усё гэта зрабіў, як кажуць, поступ навукі. Гэтаму ня можа запярэчыць поступ навукі, а наадварот, набіраем паважнага перакананьня, што гэта так ёсьць, бо Бог стварыў сьвет у вялікай магчымасьці і стварыў на зямлі чалавека з душою, даўшы душы розум, таксама ў магчымасьці. Што гэта значыць у магчымасьці? — Возьмем „найдурнейшага" чалавека, але здаровага, пачнём яго вучыць і лёгка пераканаемся, што яго розум шырыцца, абнімае большы кругазор, наагул, як кажуць, чалавек пачынае разумнець. Зна-

чыцца, яго розум можа разьвівацца. Цяпер возьмем абы якую рэч, хоць-бы маленькую трэсачку, і з яе можна штоколечы зрабіць. Напрыклад, запаліць і будзем мець агоньчык, цяпло, пасьля вугольчык, калі спаліць вугольчык — будзем мець крышку попелу, а з попелу можам зрабіць луг, у якім так добра бяліць палатно. Вось тое, што пазваляе з аднае рэчы зрабіць другую, ці адной рэчы зрабіцца другою, выказвае, што даная рэч ёсьць у магчымасьці. І кожная рэч, якую-б мы ні ўзялі, калі яна можа зрабіцца іншаю ці зьмяніць свой выгляд, значыцца яна знаходзіцца ў магчымасьці. У той-жа магчымасьці знаходзіцца і розум чалавека, дык затым на сьвеце робяць усё новыя і новыя адкрыцьці і яшчэ доўга іх будуць рабіць. Але гляньма на нас. Мы, Беларусы, знаходзімся таксама ў магчымасьці. Як-бы ні тармазілі нашае духовае жыцьцё, усёроўна мы будзем у магчымасьці быць сьведамым свайго чыну народам.

Мінаючы соцыяльнае пытаньне, сяньня ў нас паўстае два найважнейшыя заданьні (мо' адно) — падумаць аб сваёй уласнай душы і, скажу аналёгічна, аб душы нашае Бацькаўшчыны, як цэласьці, якую мы творым. Я сказаў „аб сваёй уласнай душы“ (пад гэтым сказам разумею душу аднае істоты) і на гэта раблю найбольшы націск. Чаму? — Прыемна чуць, як нехта хоча працаваць для народу, працуючы для народу — працуем і для Бога, дык, калі мы хочам працаваць для народу, выбірайма найлепшы спосаб гэтае працы, а гэтым найлепшым спосабам лічу працу перш над самым сабою. Калі я буду сам добрым хрысьціянінам, шчырым беларусам, дык змагу падумаць і аб шырэйшай працы, але перш за ўсё трэба падумаць аб сабе, як сказаў вышэй, аб сваёй уласнай душы, якая творыць душу нашае Бацькаўшчыны, — ці ёсьць яна ў адпаведнай праўдзіваму беларусу дасканальнасьці?

Вось цяпер падумайма аб душы нашае Бацькаўшчыны. Я спытаўся аднойчы ў аднаго селяніна, што такое народ. Ён мне адказаў: „Народ, дзеткі, гэта сям'я“. І вытлумачыў пасвойму, як ён разумеў народ. „Сям'я мае бацьку, матку, дзяцей і народ мае тое самае“. Мяне гэта моцна зацікавіла і вось што я даведаўся: „Бацька народу гэта Сам Бог — Ён яго стварыў, а маці гэта Бацькаўшчына“. Ведама я спытаўся, чаму ні Найсьвяцейшая Дзева Марыя? Быў просты адказ: „Найсьвяцейшая Дзева бязумоўна Маці, але Маці ўсяго народу на сьвеце“. Пра дзяцей я нічога ня пытаўся, а падзякаваў шчыра майму добраму дзядзьцы за такое харошае пасвойму тлумачэньне. Але мы разважым над тым, як азначаюць народ вучоныя людзі. Народ—гэта:„аб'яднаньне людзей, — кажуць яны, — сьведамае свае ўнутранае лучнасьці, вынікаючай з супольнасьці многалікіх зачаткаў

культуры і супольнасьці гістарычнай мінуўшчыны, а праз гэта сьведамае свае вонкавае абасобленасьці“ (Jellink). Вось мы бачым што тут гаворыцца аб аб‘яднаньні, супольнасьці, лучнасьці; усе гэтыя словы, як паняцьце, выражаюць адно і тое самае, што і слова злучэньне, або заклік да злучэньня. Заклік гэты прыбрала наша часопісь уніятаў-беларусаў. Мы, як апынуліся ў магчымасьці, дык сьмела і адкрыта пачалі ўскрашаць, здавалася-б навек загінуўшую, нашу уніяцка-беларускую душу, выяўляючы ў гэтым сваю працу ў Богу для нашага народу. Злучыліся мы ў адну уніяцкую сям‘ю, якая ўвесь час шырыцца і шырыцца. Каб зразумець, чаму мы так зрабілі, прачытайма першы артыкул у № 1 „Ад Рэдакцыі“ нашае часопісі, дык і ўбачым, што зрабілі мы гэта, карыстаючыся тою магчымасьцю, ў якой мы знаходзімся, каб стварыць Божую сям‘ю — адну народную душу. Кожны беларус, калі ён любіць сваю Бацькаўшчыну, з болем адчуе гэты, амаль варожы падзел нашага народу на праваслаўных і каталікоў, дык, калі мы хочам падумаць аб сваім народзе, разважым над тым, ці быць каталікамі, уніятамі, ці быць праваслаўнымі? Няўжо-ж мы, чаго ня дай Божа, павінны век заставацца разьбітым на дзьве часьці народам, быць няроўнымі дзяцьмі нашае Бацькаўшчыны? Падумайма над нашай мінуўшчынай, над тым, якую ролю ў нашым адраджэньні адыгралі і адыгрываюць каталікі, а якую праваслаўныя і выбярма адзін шлях. Маючы на мэце перш за ўсё лучнасьць рэлігійную, злучымся і нацыянальна.

Праваслаўныя думаюць, што уніяты іх ня любяць. Я скажу больш і калі гэта ня праўда, дык маіх слоў не надрукуе наша часопісь. Мы ня толькі ні ня любім праваслаўных, але і самі сталі-б праваслаўнымі, каб хто-нібудзь мог нам высьвятліць, што праваслаўе не адбіўшаяся і заблудзіўшая Хрыстова авечка, а цэлае стада авец, пастырам каторых зьяўляецца Сам Хрыстос. Але-ж нам гэтага ніхто ня можа высьвятліць, дык мы і выбралі стары беларускі уніяцкі шлях і будзем яго трымацца, пакуль будзем пераканаць ў праўдзівасьці яго кірунку і запрашаем усіх братоў Беларусаў на наш шырокі шлях, толькі з варункам, што кожны павінен стаць сам уніятам, як сталі імі мы.

Дык, усё гэта разважыўшы, мы сьмела можам сказаць старым беларускім звычаем — памажы Божа стаць Беларусам на іх праўдзівы шлях, карыстаючыся тою магчымасьцю, якую Ты, о Божа, нам даў!

*Я. Корчык.*

---

# Сьв. першамучаніца Тэкля.

Калі сьв. апосталы Павал і Варнава навучалі ў Іконіон горадзе Малое Азіі, паміж слухачамі знаходзілася 18-гадовая дзяўчына, дачка вяльможнае паганскае сям'і, імем Тэкля. Сьвятыя словы апосталаў, якім таварышыла ласка Божая, адкрылі дзяўчыне-паганцы новы, датуль нязнаны для яе сьвет. Прамень Божага сьвятла, азарыўшы яе душу, прабудзіў у яе пачуцьцё, якое драмае ў душы ўсякага чалавека, пачуцьцё любові да Бога. Абліччa Ісуса Хрыста, праяшчанага апосталамі Бога, каторы ачалавечыўся, каб сваім жыцьцём і мукамі вярнуць людзям згубленае шчасьце, прыцягнуў яе маладое сэрца непераможнай сілаю. За сэрцам пашла воля і дзяўчына рашылася ахвяраваць ўсё сваё жыцьцё службе Адзінага Бога.

Маладая дзяўчына была ўжо заручана з вяльможным юнаком, але цяпер яна адмовіла яму і праз гэта яна трапіла на перасьледаваньне свае маці.

Маці пачала яе прымушаць да шлюбу і ласкаю і пагрозай, а на‘т і біцьцём і голадам; нарэшце праз жаніха свае дачкі пажалілася на яе і на сьв. Паўла князю-начальніку. Князь паклікаў і выслухаў сьв. Паўла, каторы таксама і яму расказваў пра Хрыста; князь адлажыў суд, а тымчасам казаў закаваць яго ў кайданы і пасадзіць ў вастрог.

Тэкля даведаўшыся аб гэтым, узяла свае каштоўнасьці і, аддаўшы іх даглядчыку вастрогу, адведала сьв. Паўла, свайго настаўніка, з сьлёзамі цалавала яго кайданы. Сьв. Павал, даведаўшыся аб долі дзяўчыны, багаславіў яе і надаў ёй адвагі на новыя ахвяры, назваўшы яе сваей першай дачкою, каторую ён адрадзіў для нябеснага царства ласкі.

Тымчасам у доме Тэклі заўважылі яе няприсутнасьць і, пасьля доўгага шуканьня, знайшлі яе ў вастрозе і павялі да князя, каторы даў загад паставіць перад судом таксама і сьв. Паўла.

Фамір, жаніх Тэклі, разам з народам абвінавачваў сьв. Паўла ў чарадзействе і прасіў, каб яго пакаралі. Князь аднак-жа, не знаходзячы ў ім віны, годнай сьмерці, загадаў яго выгнаць з гораду, а дзяўчыну пачаў прымушаць выйсьці за Фаміра, але дарэмна. Яна нават і не адказвала на яго пытаньні. Маці-ж Тэклі, ў каторай паганская любоў перамянілася ў ненавісьць, пачала яе вінаваціць ў непаслухмяннасьці, гордасьці, і дамагалася спаленьня свае ўласнае дачкі.

Маладую хрысьціянку пачалі мучыць, але яна, кіруючыся навукамі сьв. Паўла, малітваю і пастом злучалася са сваім Боскім Жаніхом, атрымала ад яго ласку сталасьці

ў веры, мужнасьці і цудоўнае апекі. На збудованы загадам князя касьцёр, Тэкля ўзыйшла сама, а калі полымя абхапіла дзяўчыну, дык з неба паліў дождж, як з вядра, з градам, а ўсе прытомныя разьбегліся ў страху. Тэкля, астаўшыся цэлай, пашла шукаць свайго настаўніка сьв. Паўла і знайшла яго, калі ён маліўся за яе. Разам з ім і яго таварышамі яна выбралася ў Антыёхію, дзе прыпадкова сустрэў іх старшыня гораду і пажадаў адцягнуць яе ад хрысьціян і ўзяць яе сабе за жонку. Тэкля адмовілася. Старшыня запаліўся шалёным гневам і загадаў два разы выпусьціць на яе галодных дзікіх зьвяроў, але тыя ня кідаліся на дзяўчыну. Адна львіца лягла перад ёю і лізала яе ногі. Ня могучы гэткім спосабам зламаць яе пастановы, кінулі яе ў яму, поўную ядавітых гадаў, але і адтуль выйшла яна цэлай і непашкоджанай. Заўзяты тыран, ня ведаўшы, як з ёю пакончыць, казаў прывязаць яе да двух быкоў, каторых калолі распаленымі прутамі, каб яны, разьбегшыся, разарвалі дзяўчыну-мучаніцу, але вяроўкі разарваліся, як павуціньне. Пазнаўшы сілу Божую, старшыня пусьціў дзяўчыну на волю. Яна адшукала сьв. Паўла, разьвіталася з ім і пасялілася блізка каля Сэлеўкіі на адной бязьлюднай гарэ, дзе трудзілася і працавала, займалася набожнасьцю і пасьціла.

Госпад надзяліў яе дарам цудатварэньня і шмат людзей вылечвалася па яе малітвах, а часам яны пераходзілі з паганства ў хрысьціянскую веру. Гэтак пражыла сьвятая панна да дзевяцьдзесятага году свайго жыцьця.



# Унія, а сэктанства.

Унія ў нашыя часы зьяўляецца неабходнаю для хрысьціян. Унія не стараецца разлучыць хрысьціян, як гэта дзеецца цяпер ня толькі сярод палітычных, але і рэлігійных групаў. Аддзяляюцца ад адзінства і, паводле сваіх жаданьняў, твораць рознага роду сэкты. Аб іх кажа сьв. Пісаньне: „Гэта тыя, што адлучаюцца (ад адзінства веры) з душою, ды ня маюць духа" (Іуда Ап. 1, 19).

Унія, наадварот, стараецца стварыць адзінства веры на зямлі.

Хрыстос ясна казаў: „Хто не са Мною, той процi Мяне"; і горача маліўся да Айца свайго нябеснага на апошняй вячэры. „Няхай будуць усе адно" (Іо. 17.). Вось Унія і яе духавенства цалком выпаўняе волю Ісуса Хрыста і навучае народы, каб злучыліся ўсе ў адно.

Часопісь уніятаў „Да Злучэньня" ўсіх кліча да аднаго неразлучнага адзінства, да адзінай, сьвятой, апостальскай, кафолічнай або сусьветнай царквы.

Вельмі часта здараецца, што да веруючых прыходзяць людзі, каторыя кажуць, што царква і сьвяшчэньнікі не патрэбныя, кожны рукапаложаны можа выпаўняць тое самае, што і сьвяшчэньнік. Паўстаюць і на нашай зямлі розныя сэкты, каторыя паміж сабою вядуць заўзятую барацьбу, абкідаюць адзін аднаго гразёй. Пыха запанавала ў сэрцах гэтых людзей. Каштоўную адзежу Хрыста стараюцца падзяліць на кавалкі; тлумачаць сьвятое пісаньне кожны пасвойму, выпаўняюцца на іх словы сьв. Пісаньня, Мац. 27, 35.

Суботнікі, напрыклад, кажуць, што трэба сьвяткаваць суботу, нельга есьці мяса сьвінога і трэба выпаўняць другія жыдоўскія цэрамоніі, што пярэчыць словам сьв. Паўлы да Каласянаў 2, 16—18.

Ісус Хрыстос ясна навучае ў Эв. сьв. Марка (2, 27—28) „субота для чалавека, але не чалавек для суботы; вось чаму Сын Чалавечы ёсьць гаспадар і над суботай". Аб ежы Ісус Хр. так навучае: „ня тое шкодзіць чалавеку, што ўходзіць у вусны, але тое што з вуснаў выходзіць."

Усе сэктанскія групы, як напрыклад: пяцідзесятнікі, баптысты, мэтадысты і г. д. зьяўляюцца перашкодай да хрысьціянскай дзейнасьці, да хрысьціянскага адзінства, бо самі не ўваходзяць і перашкаджаюць іншым увайсьці да царквы Хрыстовай, аб іх казаў Хрыстос: „Гора вам, законьнікам, што вы ўзялі ключ разуменьня: самі не ўвайшлі і ўваходзячым перашкодзілі" (Лук. 11, 52.).

Госпад аб іх казаў, што не пасылаў гэтых пракрокаў навучаць, яны самі пабеглі (Пр. Ярэм. 23, 21—23).

Для нас, злучаных праваслаўных, або, як нас называ-

юць, уніятаў, — гэта значыць злучэнцаў, — вельмі важна, каб воля Хрыста была выпаўнена, каб усе былі адно. Дзеля таго для нас няма розьніцы ў Царкве Хрыстовай, па прычыне народнасьці: паляк, беларус, рускі, турак, немец, француз, усе мы браты ўва Хрысьце, усіх нас прыймае да свае сям'і, царквы сусьветнай Збаўца наш, Хрыстос Бог.

Браты хрысьціяне, заблудзіўшыя ў розных сэктах і адшчапленьнях, шукайце праўды, імкнецеся да злучэньня, а Госпад Бог вам паможа і выбавіць вас ад усякага сумліву і духоўнага неспакою.

*Злучэнец В. Плаўсюк.*

Баранавічы 10.VI.1932.

---

# Наш адказ.

Застаецца мне яшчэ некалькі слоў адказаць на артыкул варшаўскага „Слова“: „Историческія причины возникновенія и развитія католическаго ученія о главенстве Папы Римскаго“.

Чытаем ў. часопісі „Слово“ № 17:

„Але найбольш бесперашкодна, з хутчэйшым тэмпам. папства пачало разьвівацца пасьля адлучэньня ад Праваслаўнае Царквы“.

Хай дазволена будзе нам спытацца, ад якое Праваслаўнае Царквы папа адлучыўся? Ад праўдзівага Праваслаўя, што абазначае тое самае, што і каталіцкая вера, папа не адлучаўся, а „праваслаўе“ нязлучанае, схізматыцкае пачалося толькі праз непадпарадкаваньне Папе Рымскаму, дзеля гэтага ня можна казаць, што Папа Рымскі адлучыўся, але ён адлучыў 16.VII.1054 Патрыярха Міхаіла Келуларыя і ўсіх тых, што пайшлі за ім. Прычыны былі вельмі важныя. Такім чынам паўстала „Праваслаўе“ нязлучанае, аб якім аўтор піша.

Пасьля аўтор артыкулу вінаваціць вельмі неразважна папу Адрыяна ў прадстаўленьні Карлу Вялікаму хвальшывага дакумэнту і апіраецца ў сваім вінавачаньні на вельмі дзіўным аўторытэце, на Салямоне Рэйнаху. Хто ён гэты Салямон Рэйнах, на каторым, як на нязрушальным аўторытэце, праваслаўныя нязлучаныя снуюць сваё абвінавачаньне? Гэта жыд, самае імя нас у гэтым пераконвае — Салямон, ведамы вораг ня толькі каталіцкае рэлігіі, але і цэлага хрысьціянства. Ці-ж можна на гэткім аўторытэце, як на моцным фундаманце апірацца? Браты праваслаўныя, ня

раджу вам вельмі верыць усяму таму, што жыды, ворагі хрысьціянства, аб нас гаворацць ці пішуць.

Гэта праўда, што папы (асабліва папа Рыгор VII) мелі вялікую ўладу нават над каралямі. Генрых IV змушаны быў пайсьці да Каносы і там прасіць прабачэньня. Гэтая ўлада папаў рымскіх выплывала з паняцьця, што як дух важнейшы за цела, так і ўлада духоўная важнейшая за зямную, дзеля таго зямная ўлада мусіць быць падпарадкавана ўладзе духоўнай.

Ня ведаю, скуль аўтор артыкулу ўзяў, што:

„Матар'яльныя выгады, тымчасам, прыблізілі час абвешчаньня япіскапа Рыму „віцэ-Богам".

Дзе і хто абвяшчаў, або прызнаваў папу рымскага „віцэ-Богам"? Ніколі гэтага ня было, аўтор артыкулу проста выдумаў у сваёй галаве. Нашто выдумваць нябывалыя рэчы, ці гэта паможа нязлучанаму праваслаўю, можна сумлявацца.

„Сьвет каталіцкі, — далей піша аўтор, — гэтае права (права галавенства царкоўнага) прызнае, а ўвесь іншы сьвет хрысьціянскі гэтае права цалком адкідае, не прызнае"...

Які ўвесь сьвет хрысьціянскі, хто не прызнае папы рымскага галавой царквы? Апрача нязлучаных праваслаўных, розныя гэрэтыкі, як напрыклад: лютаране, англікане, кальвіны, нестарыянцы, гудороўцы, баптысты, суботнікі, штундысты і да іх падобныя. Ну і кампанія нязлучаных праваслаўных, ёсьць-жа чым пахваліцца!

Праўда, што нязлучаныя праваслаўныя не прызнаюць папы рымскага галоўным кіраўніком царквы на зямлі, але-ж гэта ня значыць, што гэткага кіраўніка няма і што не ўстанавіў яго Ісус Хрыстос. Існаваньне яго не залежыць ад прызнаваньня яго ці непрызнаваньня. Таксама можна спаткаць шмат людзей, асабліва ў цяперашняй Расеі, што не прызнаюць Бога, аднак-жа Бог быў і ёсьць, незалежна ад таго, ці прызнаюць, ці не прызнаюць Яго.

У канцы аўтор артыкулу прыводзіць яшчэ адну самую галоўную прычыну разьвіцьця каталіцкае навукі аб галавенстве папы: вінаваціць папаў у іх безгранічнай пысе, гордасьці. Дапраўды з фарызэйскім згоршаньнем успамінае аўтор артыкулу аб залатым троне, хацеў-бы, каб, за прыкладам Хрыста, папа ня меў дзе галавы скланіць. Напэўна сам аўтор мае памешканьне крыху лепшае за лісаву нару, хай-жа не зайздросьціць спосабу жыцьця, адпаведнаму да становішча, якое займае папа рымскі ў сьвеце.

Не павінны браты праваслаўныя, нязлучаныя, гэтак агульна ўсіх папаў рымскіх вінаваціць у гордасьці, бо паміж імі шмат было сьвятых, якіх і цяперашняе праваслаўе прызнае, — сьвятасьць і гордасьць гэта дзьве рэчы, якія адна адну выключаюць.

Вось, дарагія браты, нязлучаныя праваслаўныя, наш адказ на вашыя вывады аб галавенстве папы рымскага. Ведаем, што наш адказ дайшоў да рук аўтора артыкулу і дагэтуль ня маем адказу на наш адказ; дзеля гэтага можна спадзявацца, што аўтор артыкулу згаджаецца з намі, або можа і не згаджаецца, але ня мае чаго адказаць. Лепей было-б, каб не адказваў, бо яшчэ больш разыйшоўся-б з праўдаю, а праўда толькі адна.

*Злучэнец.*

---

# Да нас пішуць.

## *Дарагія браты ўва Хрысьце! Мір Вам!*

Я вельмі дзякую Госпаду Богу за тое, што маю магчымасьць чытаць часопіс пад назовам: „Да Злучэньня,“ якую Бог пасылае праз вас да брата В. Плаўсюка, а ён гэту часопісь даець чытаць іншым.

Калі я першы раз пачуў аб уніі, то мне здавалася, што гэта хочуць нас, беларусаў, зрабіць палякамі, а калі лепш пазнаў справу і пачаў чытаць часопісь і Сьв. Пісаньне, тады мне зрабілася ясным, што спаўняюцца тутка ў гэтай справе словы Хрыста, аб чым Ён маліўся перад сваімі мукамі: „Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, ува Мне, і я ў Табе, так і яны няхай будуць адно, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне“ (Іоан. 17,21).

Тутка Хрыстос моліцца, каб усе людзі, што ідуць сьледам за Ім, захавалі адзінства. Чаму? Таму што вераць у Ісуса Хрыста, Каторы для ўсіх людзей даў адно правіла жыцьця і дзеля гэтага павінны ўсе аднолькава паступаць.

І вось я пачынаю шукаць, дзе ёсьць адзінства. Пайшоў на сабраньне да баптыстаў і што-ж я ўбачыў? Што там ня толькі няма адзінства, а яшчэ зусім разьбіваюць усялякае адзінства. Сустрачаў я павадыроў іншых сэктаў, і дагледзіў ў іх поўнае разьяднаньне. І я проста зьдзівіўся, чаму няма ў іх адзінства, дык усе-ж яны кажуць, што вераць у Ісуса Хрыста.

Потымка пайшоў я да нязлучаных праваслаўных і пачаў прыглядацца, і ўбачыў, што і ў іх няма адзінства, няма аднаго пастыра, каторага ўсе слухалі-б.

І вось аднаго разу папаў у мае рукі адзін нумар уніяцкай часопісі, і там я ўбачыў і пачуў покліч да адзінства, і даведаўся, што ў іншых хрысьціянскіх групах няма адзінства дзеля таго, што не прызнаюць Наступніка Сьв. Пётры

Апостала, першага папы рымскага, якому Хрыстос перадаў сваю ўладу (Мац. 16,18-19), а ад каторага гэта ўлада перайшла на цяперашняга Папу Рымскага. Як-жа можа быць там, дзе няма гаспадара, немагчыма адзінства.

І, так зразумеўшы важнасьць адзінства і што гэтага жадае Хрыстос, сэрца маё гарыць пажаданьнем, каб усе людзі-хрысьціяне прыйшлі да адзінства і прызналі Таго, Каму Хрыстос даў уладу і паставіў Пастырам (Іоан. 21,15-18) і толькі тады будзе адзінства, аб якім маліўся Хрыстос.

Я бачу, што Госпад Бог работу над злучэньнем хрысьціян багаслаўляе, вось і я таксама хацеў-бы пасьвяціць сябе на закліканьне ўсіх хрысьціян да адзінства, толькі ня ведаю, як гэта пачаць, і прашу вас, як людзей ужо ў гэтай рабоце спрактыкаваных, каб мне маладому, поўнаму гарлівасьці да сьвятой справы, паказалі, што рабіць, каб унія пашыралася ў нашым павеце і агульна сярод беларускага народу, каб гэты народ і ўсе іншыя зразумелі, што тут толькі рэч ідзе аб збаўленьні душ чалавечых.

І я вельмі вас прашу, прысылаць аб справе ўніі інфармацыі, каб гэта сьвятая справа пачалася і ў нас у Баранавічах і каб многія душы прышлі да адзінства і прызналі Таго, Каго Хрыстос паставіў Пастырам свайго стада.

Баранавічы 22.VI-1932 г. **Уладымер Леванеўскі.**

---

# Хроніка.

**1. Уніяністычны Кангрэс у Велеградзе** 14—17 ліпня адбыўся Уніяністычны Кангрэс у Велеградзе (Чэхаславакія). Зьехалася з усіх бакоў Эўропы шмат вучоных багасловаў. Прыбыло на кангрэс 10 япіскапаў ўсходня-славянскага і лацінскага абрадаў. Не бракавала таксама і прадстаўнікоў праваслаўных. Трэба адзначыць прысутнасьць праф. М. Карташова, б. міністра веравызнаньняў у Расеі ў міністэрстве Керэнскага. Усіх прысутных было больш як 200 чалавек. Шмат было прачытана навуковых рэфэратаў выдатнымі сіламі навуковага сьвету. Мэтай гэтых кангрэсаў ёсьць пазнаць Усход і гэтым самым нарыхтаваць дарогу да злучэньня, ухіляючы перашкоды.

Дай Бог, каб аканчальная мэта гэтых кангрэсаў якнайхутчэй зьдзейсьнілася.

**2. Чуткі аб сусьветным саборы нязлучаных праваслаўных.** Як ведаем, шмат гавораць і пішуць аб сусьветным саборы, які быццам мае быць на Афонскай гары. Да гэтага сабору ў сучасных варунках не дайдзе.

У сувязі з справай сабору француская часопісь: „Mes-



*Удзельнікі Уніяцкага Кангрэсу, які адбыўся ад 14 — 17 ліпня 1932 году ў Велеградзе.*

sager d' Athenes“ падае гутарку свайго супрацоўніка з Канстантынопальскім патрыярхам Фоцыям II. Патрыярх, паміж іншым, сказаў: „Калі-б Папа Рымскі дзеля свайго першынства склікаў сусьветны сабор, дык не маглі-б мы прадставіць важнае прычыны, каб адмовіцца ад удзелу, аднак пад варункам, што Япіскап Рымскі прадставіць Айцом Сабору на перагляд усё, што Царква Рымская ад моманту схізмы абвясьціла за догматы веры. Калі сусьветны Сабор усе гэтыя догматы прыме, дык і мы таксама мусіцімем усё прыняць за сваё.“

**3. Навярненьне у ўсходняй царкве.** Кангрэгацыя ўсходняе царквы абвясьціла цікавую статыстыку, у якой падае лік пераходаў з схізматыцкіх цэркваў усходніх да сусьветнае (або каталіцкае) за 1931 год. Усяго навярнулася 1300, найбольш малябарскіх якубітаў (800) з сваім япіскапам Мар Іваніосам. (К.А.П.).

**4. Новая сэкта ў Румыніі.** Дзіўная сэкта паўстала паміж праваслаўнымі ў Румыніі у м. Бересте. Называюцца гэтыя сэктанты, „трасуны.“ Зьбіраюцца на сенажаць, распранаюцца ўсе да голага, кідаюцца на траву, у канвульсыях крычаць на ўсё горла і трасуцца. Такім чынам думаюць, што вытрасаюць з сябе ўсе грахі. (Экклезія).

5 **Артыста і паэт законьнікам** Парыскія часопісі падаюць, што ведамы францускі артыста і паэт Гэнрых Вэрмэй паступіў да вельмі вострага закону Картузаў. Факт гэты выклікаў зразумелае зьдзіўленьне, асабліва паміж літэратарамі і артыстамі, дзе ён быў добра ведамы па сваёй дзейнасьці. (КАП).

**6. Варашылаў аб рэлігіі ў чырвонай арміі.** Варашылаў, павадыр чырвонай арміі, у сваёй прамове на паседжаньні Палітычнага Бюра зазначыў, што рэлігійнасьць у чырвонаармейцаў яшчэ вялікая. „Дзеля таго я, — кажа Варашылаў, — ад імя цэлай чырвонай арміі, катэгорычна пратэстую проці нападаў і перашкаджаньня ў набажэнствах і дамагаюся, каб там, дзе знаходзіцца чырвоная армія, ніякія там Яраслаўскія ня высьмейвалі рэлігіі ў сваіх „Петрушках.“ (КАП).



Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

# Календар

на м—ц Верасень 1932 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль**

Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр.

| | | ВЕРАСЕНЬ |
|---|---|---|
| 1 | С | Сымона |
| 2 | Ч | Маманта, Ів. |
| 3 | П | Антыма |
| 4 | С | Вавілы |
| 5 | Н | *13.н. па С.С.Д.*, Захара |
| 6 | П | Арх Міхала |
| 7 | А | Созанта |
| 8 | С | **Нар. Прачыстай Багар.** |
| 9 | Ч | Якіма і Ганны |
| 10 | П | Мінадоры |
| 11 | С | Хвядоры |
| 12 | Н | *14 н. па С.С.Д*, Аўтанома |
| 13 | П | Карнілы |
| 14 | А | **Узьдзьвіж. Крыжа Гасп.** |
| 15 | С | Мікіты |
| 16 | Ч | Аўхэміі |
| 17 | П | Зофіі |
| 18 | С | Яўменія |
| 19 | Н | *15.н. па С.С.Д.* Трахіма |
| 20 | П | Аўстахія |
| 21 | А | Кандрата |
| 22 | С | Фокі |
| 23 | Ч | Пачацьце Сьв. Івана |
| 24 | П | Тэклі |
| 25 | С | Еўфрасіні |
| 26 | Н | *16 н. па С.С.Д.* Івана пр. |
| 27 | П | Калістрата |
| 28 | А | Харытона |
| 29 | С | Кірыяка |
| 30 | Ч | Грыгора |

Kalend. niadz. i św. łacin. abr.

| | | WIERASIEŃ |
|---|---|---|
| 14 | S | *Padw. Św. Kryža* |
| 15 | Č | Mikodama |
| 16 | P | Cypryjana |
| 17 | S | Stygm. św. Fr. S. |
| 18 | N | *18 n. pa S.S.D.* M.B.Bal. |
| 19 | P | Januaraha |
| 20 | A | Aŭstachija |
| 21 | S | *Such.* Mateŭša |
| 22 | Č | Tamaša z Wilan. |
| 23 | P | *Such.* Tekli |
| 24 | S | *Such.* N. Dz. M. Odkupu. |
| 25 | N | *19 n.pa S.S.D.*, Uładysław |
| 26 | P | Cypryjana |
| 27 | A | Kuźmy i Dziamjana |
| 28 | S | Wacława |
| 29 | Č | Michała arch. |
| 30 | P | Heronima |
| | | KASTRYČNIK |
| 1 | S | Jana z Dukłi |
| 2 | N | *20 n. pa S.S.D.* M.B.Ruž. |
| 3 | P | Taresy ad Dz. J. |
| 4 | A | Franciška z As. |
| 5 | S | Placyda |
| 6 | Č | Brunona |
| 7 | P | Marka |
| 8 | S | Bryhidy |
| 9 | N | *21 n.pa S.S.D.* Dyanizaha |
| 10 | P | Franciška Borg. |
| 11 | A | Brunona |
| 12 | S | Maksymiljana |
| 13 | C | Adwardaha |

Przesyłka opłacona ryczałtem.